сярпом тваім» (1968), «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1972), «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі», 1982), «Чорны замак Альшанскі» (увайшлі аднайменны раман і аповесць «Зброя»), (1983), аповесці «У снягах драмае вясна» (1989). Для дзяцей выдаў «Казкі» (1975) і нарыс «Белавежская пушча» (1975).

Аўтар п'ес «Млын на Сініх Вірах» (пастаўлена на тэлебачанні ў 1959), «Званы Віцебска» (1977, пастаўлена ў 1974), «Кастусь Каліноўскі» (1980, пастаўлена ў 1978), «Калыска чатырох чараўніц» (апублікавана і пастаўлена ў 1982), «Маці ўрагану» (1985, пастаўлена ў 1988; аднайменны мастацкі фільм - рэжысёр Ю.Марухін, 1990). У 1988 г. выйшаў зборнік п'ес «Старыя беларускія хронікі». Напісаў сцэнарыі кароткаметражных фільмаў «Сведкі вечнасці» (1964), «Памяць каменя» (1966), «Будзь шчаслівай, рака» (1967), сцэнарыі мастацкіх фільмаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (першапачатковая назва «Жыціе і ўзнясенне Юрася Братчыка», з В.Бычковым, 1967), «Чырвоны агат» (1973), «Дзікае паляванне караля Стаха» (з В.Рубінчыкам, 1979), «Чорны замак Альшанскі» (з М.Пташуком, 1984). На тэлебачанні і радыё па яго творах пастаўлены шэраг спектакляў. Па лібрэта Караткевіча пастаўлена ў Беларускім тэатры оперы і балета опера «Сівая легенда» (кампазітар Д.Смольскі, 1978), а паводле яго аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» - аднайменная опера (кампазітар У.Солтан, 1989).

Выступаў як публіцыст і крытык. Напісаў нарыс «Зямля пад белымі крыламі» (1977, першае выданне - на ўкраінскай мове, Кіеў, 1972), эсэ «Мсціслаў - Мстиславль» (1985), эсэ, артыкулы пра Ф.Скарыну, Т.Шаўчэнку, Лесю Ўкраінку, М.Агінскага, Я.Купалу, М.Багдановіча, М.Шолахава, Я.Брыля, У.Калесніка, М.Лужаніна, Р.Барадуліна, В.Зуёнка, А.Наўроцкага, Я.Сіпакова. Выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах (1980) і Збор твораў у 8 тамах (1987-1991).

Працаваў як перакладчык. На беларускую мову пераклаў драму М.Карыма «У ноч зацьмення Месяца»

(пастаўлена ў 1972), аповесць Э.Гашпаравай «Цяжка быць мустангам» (1981), паасобныя творы Дж.Байрана, А.Міцкевіча, І.Франка, Я.Судрабкална, Б.Мацкявічуса і інш.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І.Мележа (1983) за раман «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1984, пасмяротна) за раман «Чорны замак Альшанскі».

***Крыніца:*** *Беларускія пісьменнікі: 1917-1990. Менск: Мастацкая літаратура, 1994.*

